


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# наша слова

№ 18(28) ● 19—25 ЧЭРВЕНЯ 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## *Поступ тыдня*

На сесіі Беларускага парламента працягваецца абмеркаванне новых дакументаў. Пачаўся разгляд пытанняў, якія ўключаны ў парадак дня па патрабаванню стачкомаў. Сярод іх — аб дэпалітызацыі і дэпартызацыі вытворчых калектываў.

Паколькі рашэнне па гэтай праблеме не знайшло падтрымкі сярод камуністычнай большасці парламента, Аляксандр Лукашэнка аб'явіў аб тым, што група камуністаў-дэмакратаў выгашыла адмежавацца ад палітыкі, якую праводзіць ЦК КПБ, і стварыць сваю фракцыю ў Вярхоўным Савеце БССР. Можа, хоць такі крок дапаможа парламентарыям знайсці паразуменне з прадстаўнікамі рабочых?

Прынята пастанова аб стварэнні ў Мінску Беларускага інстытута праблем культуры. Інстытут будзе мець два накірункі ў сваёй дзейнасці: навукова-тэарэтычны і навучальна-метадычны. Такіх устаноў у нашай краіне больш няма нідзе. І многае цяпер залежыць ад таго, у які бок скіруюцца намаганні яе супрацоўнікаў. Не паўтарыць бы сумны вопыт Інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры, метадычнага кабінета па навучальных установах мастацтва і культуры, а таксама навукова-метадычнага цэнтра, на базе якіх узнік новы інстытут.

Пасля працяглай рэстаўрацыі зноў прыняў прыхаджан адзін з самых старажытных сабораў Гродна — Брыгіцкі каталіцкі храм. Крыху раней веруючым перададзена Каложская царква, пабудаваная восем стагоддзяў назад. А ўсяго за два гады ў вобласці ўтварылася каля ста новых прыходаў, і цяпер дзейнічае звыш двухсот розных рэлігійных аб'яднанняў — праваслаўных, каталіцкіх, пяцідзесятнікаў, адзіная на Беларусі мусульманская мячэць і іншыя. Так выконваецца тут Закон аб рэлігійных аб'яднаннях. А вось адносіны да Закона аб мовах на Гродзеншчыне выклікаюць трывогу...


*...Не падзяліцца б яшчэ і па канфесіях!* Стар. 2

*З чаго пачынаўся крызіс правапісу...* Стар. 3


## *НА II З'ЕЗДЗЕ ТБМ*



# *Мова нас аб'яднае*

Асноўным лейтматывам большасці выступленняў з трыбуны II з'езда Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што праходзіў 14 і 15 чэрвеня ў Мінску, было абгрунтаванне еднасці і паразумення ўсіх патрыётаў роднага слова. Ужо ў дакладзе, які зрабіў старшыня Таварыства Ніл Гілевіч, была падвергнута крытыцы пазіцыя асобных грамадскіх рухаў, што слаба займаюцца пытаннямі мовы, а больш засяроджваюць увагу на сваіх палітычных платформах, зыходзячы з меркаванняў, быццам спачатку можна здабыць свабоду, каўбасу, а пасля заняцца і беларускім словам. Мова нас аб'яднае.

Дабіваўся гэтага, як зазначыў у сваім дакладзе Леанід Лыч, член сакратарыята ТБМ, доктар гістарычных навук, таксама цяжка, як і супрацьдзейнічаць вынікам чарнобыльскай катастрофы.

Таму з такім энтузіязмам і была сустрэта дэлегатамі з'езда заява Старшыні Саўміна рэспублікі Вячаслава Кебіча ўжо з верасня гэтага года перайсці ў сваіх выступленнях на родную мову.

Пра недастатковую ўвагу да ажыццяўлення Закона аб мовах гаварыў у сваім дакладзе таксама намеснік Старшыні Саўміна Міхась Дзямчук.

Дзейнасць дзяржаўных органаў па нацыянальнаму Адраджэнню закранаў у сваіх выступленнях многія прамоўцы — міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, старшыня Дзяржкамвыда Анатоль Бутэвіч, намеснік міністра народнай адукацыі Людміла Сухнат, пісьменніца Ніна Загорская і іншыя.

Усяго на з'ездзе заслухана звыш трыццаці прамоўцаў. З іх, акрамя названых, наступныя: А. Лозка (Мінск), Р. Генюш (Слонім), С. Зы블ькоў (Гродна), М. Ціхончык (Мінск), А. Белакоз (Мастоўскі раён), Л. Цімохін (Маладзечна), М. Кадыка (Баранавічы), Л. Мацюкевіч (Салігорск), А. Белы (Мінск), М. Барбук (Светлагорск), В. Крапіўка (Мінск), І. Кучынскі (Вільнюс), В. Вячорка (Мінск), Л. Латоцін (Магілёў), М. Байкачоў (Ніжні Ноўгарад), У. Юрэвіч (Мінск), А. Надсан (Лондан, Вялікабрытанія), В. Вабішчэвіч (Столін), Г. Пяткевіч (Стоўбцы), П. Юшчук (Беласток, Польшча), С. Запрудскі (Мінск), С. Суднік (Казахстан), Г. Цыхун (Мінск), А. Марачкін (Мінск), А. Мальдзіс (Мінск), Я. Цумараў (Мінск).

Падводзячы вынікі абмеркавання, Ніл Гілевіч зноў напомніў аб ідэі адзінства ў нацыянальным Адраджэнні Беларусі.

З'езд звярнуўся да грамадзян Беларусі, да беларусаў, якія жывуць ва ўсім свеце, да прыхільнікаў беларускага слова ахоўваць і развіваць духоўныя скарбы народа, шанаваць родную мову. Дэлегаты з'езда прынялі таксама рэзалюцыю «Да пытання пра Саюзны дагавор». З'езд абраў Раду Таварыства беларускай мовы і яе старшыню — Ніла Гілевіча.

Матэрыялы з'езда будуць надрукаваны ў наступным нумары.

НА ЗДЫМКУ: прэзідыум з'езда.

Фота У. КРУКА.

# ЗАКОН аб культуры ёсць...

4 чэрвеня на сесіі Вярхоўнага Савета БССР прыняты Закон аб культуры ў Беларускай ССР, праект якога ў кастрычніку мінулага года быў вынесены на ўсенароднае абмеркаванне. Шкада, што такога абмеркавання не адбылося — у друку амаль не было водгукаў. Ды і не дзіўна, за апошнія гады многія згубілі веру не толькі ў «развіты сацыялізм», але і ў тое, што можна нешта змяніць у гэтым жыцці, выказаўшы свае думкі на старонках друку. Стала прасцей і больш надзейней — пайсці на пляц да Дома ўрада і патрабаваць, чаго хочацца. А хочацца многага! І на ўсё патрэбны грошы. Грошы патрэбны і на ажыццяўленне Закона аб культуры. І не рубель, і не сто, а мільёны і мільярды. Хто іх дасць? Масква?..

Чытаючы Закон аб культуры у Беларускай ССР, звяртаеш увагу на закладзеныя ў дакуменце прынцыпы: свабода творчасці, плюралізм яе напрамкаў і стыляў, адмова ад манапалізму ў культуры, абарона інтэлектуальнай уласнасці, агульнадаступнасць духоўных каштоўнасцей, клопаты аб культуры нацыянальных меншасцей. Добра. Але дзе гарантыя, што ўсё гэта будзе выконвацца? І наогул ці пачне па-сапраўднаму дзейнічаць прыняты закон, бо колькі ў нас прынята такіх законаў, ад якіх нікому ні горача, ні холадна?

Нельга не адзначыць, што, нягледзячы на чарнобыльскую бяду, наш народ думае пра захаванне сваёй культуры, пра адраджэнне беларушчыны. І не дзіўна, што аглядальнік «Народнай газеты» Сяргей Плыткевіч свой рэпартаж з сесіі Вярхоўнага Савета БССР назваў «Першы ў Саюзе Закон аб культуры ёсць!». Закон аб культуры ёсць, цяпер паглядзім, што далей.

Віктар ШНІП.

## *Пошта рэдактара*

# ВЫРАШЫМ РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы, спадары і спадарыні! Штодзённа мы, супрацоўнікі рэдакцыі, адчуваем вашу падтрымку. Штодзень прыходзяць ад вас пісьмы са словамі ўхвалы публікацыям «Нашага слова», таксама і заўвагі, прапановы, пажаданні пра нешта цікавае для газеты. Адчуванне еднасці з чытачамі падбадзёрвае нас, надае сілы, узмацняе творчы настрой.

Але, акрамя лістоў, ідуць ад вас яшчэ і грашовыя пераводы. Некаторыя чытачы заходзяць да нас самі і кажуць: хочам перадаць грошы на падтрымку «Нашага слова». Звычайна мы накіроўваем такіх людзей да бухгалтара Рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы. Акрамя таго, пастаянна змяшчаецца на апошняй старонцы газеты банкаўскі рахунак ТБМ. Бо хачу адзначыць: мы заадно, ТБМ падтрымлівае «Наша слова» ўсім, чым толькі можа,— і матэрыяльна, і сваім грамадскім аўтарытэтам.

Тым не менш некаторыя чытачы ўсё ж настойваюць: не, ТБМ мы ахвяравалі, але гэтыя грошы — менавіта для патрэб «Нашага слова». Або на паштовым пераводзе, указваючы рахунак ТБМ, пазначаюць: рэдакцыі «Нашага слова».

Вось прыклады апошняга тыдня. Савет працоўнага калектыву і адміністрацыя Дзяржаўнага музея БССР пастанавілі захвочваць матэрыяльна супрацоўнікаў, якія дбаюць пра беларускую мову. Відома, што работнікі нашых музеяў маюць далёка не самыя «тлустыя» аклады. Ды і наогул, у каго цяпер, калі цэны ўзняліся да нябёсаў, рубель лішні? Тым не менш супрацоўніца музея Ірына Міхайлаўна Зварыка прыслала сваю надбаўку ў рэдакцыю. З надпісам: «Прэмію ахвярую газеце. Дзякуй за «Наша слова!»

А чытач з пасёлка Уша Карэліцкага раёна Аляксандр Сафронавіч Доўбік на паштовым пераводзе ў 30 рублёў так напісаў: «Няхай жыве ў вяках «Наша слова!»

Відаць, няма патрэбы многа гаварыць, якія ў нас у рэдакцыі адносіны да гэтых святых народных ахвяраванняў. Параўнуйшыся, мы трохі раней частку іх далучылі да ўласнага ўкладу, за які выпісалі «Наша слова» для ўсіх дзіцячых дамоў-інтэрнатаў на Беларусі. Спіс іх і адрасы мы атрымалі ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння БССР. Падпіску прадоўжым і на наступны 1992 год.

Астатнія грошы кладзём на спецыяльны рахунак у ашчадным банку. Нумар рахунку паведамім у газеце, калі на тое будзе ваша згода.

Гэтыя сродкі (ці частку іх — бо пакуль не ведаем, колькі іх будзе) прапануем перш за ўсё выдаткаваць на прэміі аўтарам лепшых публікацый года ў «Нашым слове». Ганарары ў газеце, на жаль, невялікія, а аўтараў мы імкнёмся залучыць на свае старонкі самых кваліфікаваных. «Нашаму слову» яшчэ ніхто не адмаўляў, аднак мы і самі разумеем, што нельга злоўжываць заказамі практычна на грамадскіх пачатках.

Прапануем такіх публікацый вызначыць 12—па колькасці месяцаў.

У наступным годзе «Наша слова» плануе выходзіць часцей, два разы на тыдзень. Усяго падпісчык атрымае 104 нумары за год. Спадзяюся, прыблізна ў дзесяці нумарах кожны знойдзе хоць адну публікацыю, якая, на яго думку, будзе вартай асобай ухвалы.

Бо, шаноўныя чытачы, імёны тых 12 гадавых лаўрэатаў «Нашага слова» вызначыце вы самі. Рабіць гэта лепш на паштоўках. Рэйтынг папярэдні як цяпер кажуць, аўтараў, згодна з вашымі водгукамі, паспрабуем вызначаць і публікаваць штомесячна. Гадавы — праз 10 дзён пасля Новага года. Разам з прэміяй, памер якой будзе залежаць ад таго, колькі ў нас акажацца сродкаў на прэміяльным рахунку і, зразумела, ад таго, ці падтрымаеце вы наогул нашу прапанову.

Сардэчны ўсім дзякуй і найлепшыя пажаданні ад супрацоўнікаў «Нашага слова»!

Эрнэст ЯЛУГІН.

 

## З рэдакцыйнай пошты

# Незалежны народ ці «колбасники»?

Кожны раз, калі чытаеш наступны нумар «Нашага слова», знаходзіш для сябе не толькі нешта карыснае, патрэбнае на сённяшні дзень, але і хвалюючае. І хвалюючае двухсэнсавае. У першым выпадку — хвалюючы гонар за гістарычную спадчыну, якая нагадвае нам, беларусам, якімі мы павінны былі б быць на сённяшні дзень. Калі б не згубілі духоўнасць і павагу да сваёй мовы і культуры.

У другім жа выпадку знаходзіш паўсядзённае хваляванне за нашу будучыню. Вядома, што духоўна падкаваны, з павагай да свайго народа, да сваёй спадчыны чалавек, здольны, як кажуць, горы з месца зварухнуць. Словы «горы з месца зварухнуць» тычацца ў даным выпадку эканомікі. Большасць гэтага пакуль, здаецца, не хоча зразумець. Але паслухайце! Ці можам мы, беларусы, быць цывілізаванымі і заможнымі, калі не вернем уласную мову, народныя звычаі, не падымем свой беларускі гонар? Звярніце ўвагу, да якой рысы паднялі аўтарытэт сваёй мовы англічане! Калі не памыляюся, то амаль палова жыхароў зямлі карыстаюцца ёю. Нарэшце, паглядзіце, як абараняюць свае звычаі японцы ды іншыя народы, якія жывуць па-людску.

Ну, а мы? Так і будзем лічыць сваю мову «мужыцкай» і «грубай»?

Між тым успомніце нашага суайчынніка Данчыка, вядомага спевака са Злучаных Штатаў Амерыкі. Ён нарадзіўся нават не на радзіме продкаў, а ў чужым далёкім краі, а так прыгожа размаўляе на беларускай мове, не гаворачы пра тое, як ужо спявае! Прыслухайцеся, як прыгожа размаўляюць на роднай беларускай мове іншыя нашы суайчыннікі, якія наведваюцца да нас.

«Ат, мова — не кілбаса ці хлеб. Без яе можна абысціся», — казаў той дзядзька. Пакуль, чамусьці, пагаджаюцца са словамі гэтага дзядзькі многія. Але ці не варта ўзяць прыклад нам, беларусам, з французаў, італьянцаў, тых жа немцаў ды іншых народаў, якія, карыстаючыся сваёй гістарычнай спадчынай, даўно жывуць, як належыць добрым людзям? Тут закладзены вельмі глыбокі сэнс, і калі мы, беларусы, гэтага не зразумеем, то не відаць нам «аўта-мота-відэафота», не гаворачы пра «кілбасу»!

Браты-беларусы! Адкрыйма на ўсё вочы, ці ж толькі пісьменнікам і дзеячам беларускай культуры, нашым гісторыкам ды іншым перадавым людзям усё гэта патрэбна? Гэта ж наш з вамі духоўны хлеб, без якога не існуе ні адна цывілізацыя!

Уладзімір БІБІК,
г. Нароўля.

# Чый рэлігійны гімн?

***Малітву-рэлігійны гімн «Магутны Божа» (словы Арсеньевай, музыка М. Равенскага) спяваем у сваіх праваслаўных і іншых беларускіх святынях на эміграцыі ўжо амаль паўстагоддзе.***

***У Вашай газеце № 5(15) за 20—26 сакавіка сёлета змешчаны тэкст гэтага гімна-малітвы з заўвагай, што «Верш стаў рэлігійным гімнам беларусаў-католікаў».***

***А я, каторы з'яўляюся праваслаўным і кожны раз у царкве спяваю гэты гімн рэлігійны на працягу дзесяцігоддзяў, меркаваў, што ён належыць усім беларусам, незалежна ад іх веравызнання.***

***Пытанне: навошта гэтая асоба, каторая прыслала Вам тэкст, палічыла патрэбным згадаць адно пра «беларусаў-католікаў»?***

*К. АКУЛА,*
*Таронта, Канада.*

Мусім перапрасіць тых шаноўных чытачоў, якія зразумелі заўвагу да публікацыі зараз шырока вядомага верша Наталлі Арсеньевай гэтакім жа чынам, што і аўтар ліста з Таронта.

Вядома ж, гэты гімн, як слушна сказаў спадар К. Акула, «належыць усім беларусам, незалежна ад іх веравызнання». Дарэчы, каб выжыць як народ, беларусам ні ў якім разе нельга дзяліцца яшчэ і па канфесіях! Калі нас 70 з лішкам гадоў бальшавікі дзялілі па «класавых» — «пралетарскіх» і «буржуйскіх» — прыкметах, мы бачым самі вынік на Бацькаўшчыне, што робіць бескампрамісны падзел нацыі (асабліва калі яна ў стадыі фарміравання) па рэлігійных суполках, не менш яскрава сведчыць жудасны вопыт Лівана, які з раю зямнога за некалькі гадоў ператварыўся ў пекла.

Адносна верша Наталлі Арсеньевай. Ён узяты з кнігі «Наша Вера» айца А. Надсана, дзе, дарэчы, пазначаны як «Беларускі рэлігійны гімн» — без указання на нейчую канфесійную прыватнасць. Мы пазначылі, што ён стаў таксама рэлігійным гімнам і беларусаў-католікаў разам з іншымі праваслаўнымі. Адзначана гэта таму, што побач з вершам Арсеньевай была надрукавана выдатная «Малітва за Беларусь» праваслаўнага айца Арсенія з Жодзіна.

# ЧАС САЦЫЯЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

***Ад нядаўняга часу ў рэспубліцы існуе яшчэ адна новая партыя. «Наша слова» ўжо паведамляла пра адраджэнне на Беларусі сацыял-дэмакратычнага руху. Сёння прапануем вашай увазе гутарку нашага карэспандэнта з народным дэпутатам БССР, намеснікам старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады Алегам Трусавым.***

**— Сацыяльныя эксперыменты XX стагоддзя вымушаюць сягогага адназначна паставіцца да самога паняцця сацыялізм. Які выхад са складанага становішча, што ўтварылася ў выніку гэтых эксперыментаў, бачыць Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада?**

— У нашых унутрыпартыйных стасунках мы стараемся абыходзіцца без гэтакіх слоў, як «сацыялізм», «таварыш». Яны выклікаюць у людзей дрэнныя эмоцыі. Гэтыя словы зганьбаваныя бальшавікамі, іхняй дзейнасцю. Таму, адраджаючы сацыялістычны рух на Беларусі, мы вымушаны былі змяніць назву партыі. Як вядома, калісьці першапачатковая назва Грамады была — Сацыялістычная.

Перад намі зараз паўстаюць дзве вялікія задачы. Найпершае, што трэба зрабіць сёння ў рэспубліцы,— паклапаціцца пра сацыяльную абароненасць рабочага ад дзяржаўнага камуністычнага капіталізму. Акрамя таго, што сённяшні працаўнік не мае цвёрдых сацыяльных гарантый, ён яшчэ бессаромна абкрадаецца дзяржаваю. Прыкладам, з кожнага заробленага рубля рабочаму застаецца 20—30 капеек. Замежны вопыт паказвае, што ад жыцця вытворцы залежыць дабрабыт астатніх людзей. Таму за мяжою праца рабочых аплочваецца вельмі высока. Груба кажучы, калі плаціць вытворцу з кожнага рубля ад прыбытку капеек семдзесят, ягоная праца робіцца больш эфектыўнаю, павялічваецца прадукцыйнасць. Практыка сведчыць, што тых 30 капеек, якія застаюцца з рубля, хапае, каб пракарміць усіх астатніх, хто працуе не на вытворчасці ці ўвогуле не працуе. Дарэчы, памылка бальшавікоў у тым, што яны сваёй палітыкаю ажыццявілі прынцып: хто не працуе, той не есць. Без сацыяльнай абароны засталася вялікая колькасць людзей: пенсіянеры, студэнты, інваліды, маладыя маці і г д. Мы дапускаем гэтакую магчымасць, калі чалавек не працуе. Дамагаемся сацыяльных гарантый для яго. Хаця, вядома, на першым плане ў нас — абарона людзей працы. Асабліва рабочых і сялянства. Яшчэ паўтару: калі рабочы і селянін жывуць дрэнна, дык дрэнна жыве і ўся краіна.

Аднак час мяняецца. Усё выдае на тое, што хочам мы ці не, але давядзецца ўсім нам пажыць у сапраўдным капіталізме, які зменіць сённяшні капіталізм, дзяржаўна-камуністычны. У гэтых умовах Грамада, як і зараз, будзе дамагацца абароны працоўных. Галоўнае тут — не дапусціць зніжэння ўзроўню жыцця людзей, вялікага беспрацоўя. Мы мусім выступаць за цвёрдыя гарантыі нармальнага жыцця людзей.

**— Даруйце за правакацыйнае пытанне. Чым лепшая сацыяльная дэмакратыя ад проста дэмакратыі?**

— Проста дэмакратыя — этап больш далёкі. Да яго нельга прыйсці, не прайшоўшы праз, так бы мовіць, сацыяльную дэмакратыю. Гэта даказвае сусветны дэмакратычны рух. Асабліва пасля другой сусветнай вайны ў Заходняй Еўропе сацыял-дэмакратыя выступіла за правы чалавека на добрае, бязбеднае жыццё. Гэта быў дужа істотны крок у тых умовах грамадскіх катаклізмаў, пераацэнкі духоўных каштоўнасцей, агульнага збяднення людзей. Звычайнаму чалавеку была вельмі патрэбная сацыяльная абарона, упэўненасць у сваіх сілах, у заўтрашнім дні. З еўрапейскага вопыту мы бачым, што прыход сацыял-дэмакратаў на палітычную арэну спараджаецца акурат згаданымі ўмовамі. Далей, калі ўжо дасягнутая пэўная прыступка ў развіцці сацыяльных правоў, дабрабыту, дык да ўлады прыходзяць іншыя партыі: ці хрысціянскія дэмакраты, ці зялёныя, ці яшчэ хтосьці. І наадварот, калі эканамічная сітуацыя ў краіне пагаршаецца, зноў кіраўніцтва перадаецца сацыял-дэмакратам. На прыкладзе Нямеччыны гэта вельмі добра бачна. Пасля аб'яднання з ГДР у краіне пачаў пагаршацца агульны ўзровень жыцця, і адразу ж людзі пачалі бачыць у сацыял-дэмакратах сілу, якая здольная палепшыць становішча. Таму хрысціянскія дэмакраты дрэнна выглядалі на выбарах. Яны не набралі большасці галасоў нават на радзіме Коля. Як бачна, сацыял-дэмакратыя звычайна выступае на пэўным этапе як неабходная сіла ў дасягненні правоў чалавека на нармальнае, свабоднае існаванне. У нашай рэспубліцы ў гэтым сэнсе для Грамады працы хопіць з каптуром.

**— Як Вы асабіста ставіцеся да класавай тэорыі?**

— Адмоўна. Яна з дапамогаю большавіцкай ідэалогіі вярнула грамадства да ўзроўню нейкага дзікунскага рабаўласніцтва, калі правы чалавека гарантаваліся ягоным сацыяльным паходжаннем або становішчам. Урэшце гэта падзел на элінаў і варвараў, як у старажытнай Грэцыі. Адно на больш нялюдскім узроўні, таму што ў аснове класавай тэорыі закладзены антаганізм між сацыяльнымі групамі людзей, ці, іншымі словамі, нянавісць. Хаця, я лічу, чыста ў сацыяльным сэнсе грамадства ўмоўна можна падзяліць на тры слаі. Першы слой — гэта людзі, якія знаходзяцца за межамі беднасці. Другі — гэта людзі з сярэднім узроўнем жыцця. І трэці — вельмі багатая частка народа. Я думаю, што задача БСДГ ажыццяўляць гэтакую палітыку, у выніку якой шырылася б кола сярэдняга слоя, а два ўскрайнія — змяншаліся б. Гэтага можна дасягнуць пры поўнай свабодзе чалавека працы і дасканалай сістэме падаткаабкладання. Сярэдні слой мусіць папаўняцца шэрагам былых беднякоў і з цягам часу даганяць па ўзроўню жыцця багатых

## Інтэрв'ю на актуальную тэму

# Уладзімір КУЛАЖАНКА: «Асацыяцыя беларускамоўных выкладчыкаў — патрэба часу»

***Уладзімір Кулажанка загадвае кафедраю палітэканоміі ў Беларускім тэхналагічным інстытуце імя С. М. Кірава. Ён удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў паранены, мае баявыя ўзнагароды. У часе стварэння Асацыяцыі беларускамоўных выкладчыкаў БССР абраны прэзідэнтам гэтае арганізацыі. Сёння ён адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.***

**КАР.: Апошнім часам пра Асацыяцыю беларускамоўных выкладчыкаў БССР даводзілася чуць неаднаразова. Скажыце, гэта сапраўды жыццёва неабходная грамадская арганізацыя ці, як некаторыя кажуць, даніна часу, калі многія імкнуцца ствараць розныя суполкі?**

У. КУЛАЖАНКА: Пытанне на пытанне: А як Вы лічыце, ці прыйдзе сапраўднае нацыянальнае адраджэнне без пераходу найперш вышэйшай школы на беларускую мову? А пакуль жа інстытуты і універсітэты рэспублікі рыхтуюць спецыялістаў народнай гаспадаркі, культуры, асветы на стары лад, у асноўным, «на мове Цэнтра» і, зразумелая справа, прывіваючы студэнтам эміграцыйныя настроі. З гэтакім становішчам не згодная група выкладчыкаў, якія вядуць свае прадметы на роднай мове. Мы вырашылі аб'яднаць усіх беларускамоўных выкладчыкаў ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, каб разам рабіць пэўныя захады ды ратавацца ад русіфікатарства. Узнікла ініцыятыўная група па стварэнню нашай Асацыяцыі, а ў чэрвені мінулага года адбыўся ўстаноўчы Кангрэс. Там былі абраныя Рэспубліканская Рада з дваццаці двух чалавек, Прэзідыум Рады з дзесяці чалавек і прэзідэнт. Асацыяцыя зарэгістравана пры Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Сёння дзейнічаюць пятнаццаць першасных яе арганізацый — у Мінску, Віцебску, Гомелі, Гродне.

Асацыяцыя беларускамоўных выкладчыкаў з'яўляецца самастойнай арганізацыяй, мае свой Статут, у якім адлюстраваны праграмныя палажэнні.

**КАР.: А што далей?**

У. КУЛАЖАНКА: Мы маем на мэце аб'яднанне ўсіх беларускамоўных выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў рэспублікі, каб наладзіць дзейсную дапамогу развіццю беларускай школы.

Зараз ідзе арганізацыйная работа. Ствараюцца першасныя арганізацыі, збіраецца і апрацоўваецца інфармацыя, якая дасць магчымасць больш дакладна вызначыць перашкоды ў адраджэнні нацыянальнай школы.

Надалей мы мяркуем займацца выдавецкай дзейнасцю, выпускаць тэрміналагічныя і агульныя слоўнікі, а таксама падручнікі, метадычныя дапаможнікі на беларускай мове.

**КАР.: Пытанні беларускага адраджэння, відаць, зоймуць пэўнае месца ў Вашай парламенцкай дзейнасці ў тым разе, калі Вас абяруць дэпутатам БССР?**

У. КУЛАЖАНКА: Вядома. Я вылучаны ў Мінску па Акадэмічнай выбарчай акрузе № 27 кандыдатам у народныя дэпутаты БССР. Выбары адбудуцца ў чэрвені. Мяркую, калі выберуць, скарыстаць свой дэпутацкі мандат на карысць беларушчыны.

**КАР.: А ўвогуле, як адчуваюць сябе беларускамоўныя выкладчыкі? Што іх аб'ядноўвае, акрамя мовы?**

У. КУЛАЖАНКА: Аб'ядноўваюць агульныя цяжкасці. Нестае спецыяльнай літаратуры на роднай мове, не распрацаваная навуковая тэрміналогія. Даводзіцца часцяком самім і пераклады рабіць, і вынаходзіць тэрміны. Акрамя гэтага, не паўсюль разумеюць тых, хто чытае лекцыі на роднай мове. Ёсць звесткі, што да гэтага часу ў некаторых ВНУ не выконваецца пастанова Вярхоўнага Савета БССР, паводле якой беларускамоўныя выкладчыкі павінны атрымліваць пятнаццаціпрацэнтную дабаўку да заробку. Вядома, і мэта ва ўсіх нас агульная — ствараць вышэйшую і сярэднюю спецыяльную школы на мове беларусаў.

**КАР.: Ну, а ў інстытуце, дзе Вы працуеце, як ставіцца адміністрацыя да тых выкладчыкаў, якія вядуць заняткі і прымаюць экзамены па-беларуску?**

У. КУЛАЖАНКА: З прыхільнасцю. Наша адміністрацыя вітае гэтую справу. Разумее, што гэта не прыхамаць некага, а на карысць рэспублікі, яе культуры і эканомікі. Пры рэктараце створана камісія па беларускай мове. Сярод іншых прыёмных экзаменаў у інстытуце ўведзены экзамены і на роднай мове. Гэта, відаць, дазволіць прымаць у інстытут больш вясковай моладзі, з яе гартаваць нацыянальныя кадры, якія будуць спрыяць роднаму краю. Зараз у інстытуце распрацоўваюцца тэрміналагічныя слоўнікі па хіміі, матэматыцы.

**КАР.: А студэнты як да вашай дзейнасці ставяцца?**

У. КУЛАЖАНКА: У сваёй пераважнай большасці яны разумеюць, што гэта робіцца дзеля іхняй карысці. Самі студэнты імкнуцца вывучаць прадметы па-беларуску. Прычым, цікавасць да мовы расце. Калі ў мінулым годзе я пачаў чытаць лекцыі па палітэканоміі, дык да мяне прыходзіла дваццаць працэнтаў студэнтаў. У гэтым годзе на беларускамоўныя лекцыі па палітычнай эканоміі не ходзяць толькі пяць чалавек. Гэта студэнты-замежнікі.

**КАР.: Што Вы можаце сказаць тым, хто спрабуе выкладаць на роднай мове?**

У. КУЛАЖАНКА: Для тых выкладчыкаў ВНУ і сярэдніх спецыяльных устаноў, хто імкнецца весці заняткі па-беларуску і хоча супрацоўнічаць з намі, паведамляю: даведкі пра нашую Асацыяцыю можна атрымаць па тэлефоне 27-06-91.

Распытваў Л. ВАШКО.



 

грамадзян.

**— Апошнія падзеі ў Мінску (маю на ўвазе рабочы страйк) акрэслілі «расстаноўку» палітычных сіл. Чаму, на Ваш погляд, за некалькі дзён вырас аўтарытэт грамадскага руху, найперш БНФ «Адраджэнне»? Чаму палітычныя партыі не здолелі ўзяць ініцыятыву ў свае рукі?**

— Сітуацыя зусім не гэтакая, як прагучала ў пытанні. БСДГ, іншыя партыі і БНФ разам выступілі з заявай на Вярхоўным Савеце паводле згаданых падзей. Яна была надрукаваная ў газеце «Добры вечар». Шмат якія сябры БСДГ бяруць чынны ўдзел у арганізацыі страйка на прадпрыемствах. Аднак Грамада не робіць стаўку на бальшавіцкія метады. Мы абвясцілі сябе партыяй парламенцкага тыпу. Гэта значыць, што асноўную сваю палітыку будзем праводзіць праз органы ўлады з дапамогаю нашых дэпутатаў у Вярхоўным Савеце і мясцовых Саветах рэспублікі. Мы не напрошваемся лідэрамі ці правадырамі ў рабочы рух. Браць ці не браць удзел у працы страйкомаў — асабістая справа кожнага сябра БСДГ. Грамада дзейнічае палітычнымі метадамі. Да страйка ж мы ставімся адназначна: патрабаванні рабочых — справядлівыя.

**— Кажуць, вялікую падтрымку БСДГ мае ў заходняй частцы Беларусі. Старэйшае пакаленне там памятае пра нацыянальна-вызваленчы рух, у якім чынны ўдзел брала Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Відаць, шмат хто праводзіць паралелі паміж той Грамадою і сённяшняю. Ці правільныя гэтыя параўнанні?**

— Сапраўды, на Брэстчыне і Гродзеншчыне шмат сяброў і прыхільнікаў БСДГ. Нацыянальнае Адраджэнне— тое, без чаго існаванне нашай Грамады немагчымае. У гэтым сэнсе будзе падстава параўнаць нас з БСРГ. Мы выступаем за адраджэнне і развіццё беларускай культуры. Для гэтага трэба беларусізаваць, аднавіць усе дзяржаўныя інстытуты. Зараз у нас, прыкладам, ідзе плённая праца над праектам закона аб нацыянальным войску. Лічу, яно павінна быць, не адмаўляючы, вядома, саюзных вайсковых фарміраванняў.

**— Вы лічыце, Вярхоўны Савет БССР прыме гэтакі закон?**

— Думаю, калі-небудзь, а, магчыма, даволі хутка, гэта немінуча здарыцца.

**— Аднак не верыцца, што гэтакае рашэнне можа прыняць сённяшні Вярхоўны Савет.**

— Бяда нашага Вярхоўнага Савета ў тым, што ён думае, быццам бы на вырашэнне стратэгічных дзяржаўных пытанняў яму адведзена вечнасць. Зразумела, вялікая памылка гэтак лічыць.

**— Скажыце колькі слоў пра структуру БСДГ. Хто можа быць яе сябрам? Як здзяйсняецца кіраўніцтва ўнутры партыі?**

— Я ўжо сказаў, што ў нас вельмі шмат сяброў на Брэстчыне, Міншчыне і Гродзеншчыне. Добра прадстаўлены іншыя рэгіёны. Наўздзіў, зусім малую падтрымку БСДГ мае ў Гомелі, хаця ў самой вобласці шмат нашых арганізацый. Асабіста я тлумачу гэта моцнай русіфікацыяй у гэтым горадзе. Зразумела, больш за ўсё сяброў у Мінску. Сярэдні ўзрост грамадаўцаў на перыферыі — 35—40, у Мінску — 30—35 гадоў. Прыкладна, адна трэць — гэта гуманітарыі, адна трэць — рабочая і тэхнічная інтэлігенцыя, астатнія — рабочыя і сяляне. Ёсць у нашых шэрагах невялікі працэнт вайскоўцаў.

Структура Грамады наступная. З'езд выбірае Раду з 37 чалавек, якія прадстаўляюць усе вобласці і г. Мінск. Рада з'яўляецца між з'ездамі галоўным кіруючым органам. Узначальвае Раду старшыня. У яго тры намеснікі. Ёсць выканаўчы камітэт, кантрольная — рэвізійная камісія.

Сябрам БСДГ можа быць любы грамадзянін Беларусі, які мае васемнаццаць і больш гадоў і падзяляе Статут Грамады і Праграмную заяву. Прыём у партыю мае свае асаблівасці. Трэба запоўніць пісьмовую заяву-анкету і мець дзве рэкамендацыі ад сяброў Грамады. Прымаюць у Грамаду або суполка, або Цэнтральная Рада.

У нас фіксаваныя складкі. Адзін працэнт з месячнага заробку. Бедных людзей суполка можа вызваліць ад платы складак. Мы не імкнёмся быць вялікай партыяй, як, прыкладам, КПБ, бо спадзяёмся на падтрымку беспартыйных прыхільнікаў Грамады. Мы больш уважаем на свядомасць, жаданне працаваць на карысць Бацькаўшчыне. Дарэчы, праз месяц-два мяркуем выдаць першы нумар нашай газеты «Грамада».

**Гутарку вёў Л. ВАШКО.**

## *Чыталі?*

# Дзякуй табе, браце...



Час ад часу ў кнігарнях з'яўляюцца кніжкі, якія радуюць душу. Яны напісаны ў імя Адраджэння нашай Айчыны. Сабраныя ў іх творы заўсёды сучасныя, здольныя абуджаць у чалавеку нацыянальны гонар за свой народ, за сваю гісторыю і культуру.

Зусім нядаўна ў продажы з'явілася найбольш поўнае выданне літаратурнай спадчыны аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. Укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай і прадмову да твораў зрабіў Язэп Янушкевіч, які некалькі гадоў назад з поспехам выдаў збор твораў В. Дуніна-Марцінкевіча.

У склад выдання ўвайшлі абодва зборнікі Ф. Багушэвіча — «Дудка беларуская», «Смык беларускі», вершы розных гадоў, апавяданні, пераклады, публіцыстыка. Шырока прадстаўлена ліставанне Багушэвіча з Янам Карловічам, Элізай Ажэшка, Адамам Карповічам. У дадатку сабраны творы, якія прыпісваюцца Ф. Багушэвічу, і некаторыя гістарычныя дакументы, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта. У афармленні аднатомніка выкарыстаны фотаматэрыялы мастацкага альбома «Францішак Бенядзікт Багушэвіч: Жыццё і творчасць» (Складальнікі У. Содаль і Е. Мацюш, мастак М. Купава), а таксама здымкі з архіва Я. Янушкевіча. Удзельнічалі ў стварэнні кніжкі Уладзімір Содаль і мастак Галіна Хінка-Янушкевіч.

У прадмове да «Дудкі беларускай» Францішак Багушэвіч пісаў: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!..» Сёння гэтыя словы гучаць актуальна. І той, хто мае вочы, прачытае іх, і той, хто мае вушы,— пачуе іх, і той, каму дарагая Айчына,— не дасць загінуць ёй і яе мове.

Калі дачытваеш апошнія старонкі збору твораў Францішка Багушэвіча, у памяці абуджаюцца радкі Адама Гурыновіча:

Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,<br>
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею.<br>
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі<br>
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй...<br>
Дзякуй табе, браце, за тое, што ты быў, ёсць і будзеш!

**В. ШНІП.**

# «НАША НІВА»— АДРОДЖАНАЯ!

У маі выйшаў чаканы першы нумар беларускай газеты «Наша Ніва», якую аднавілі ў Вільні беларускія літаратары, што падаліся ў старажытны горад з БССР, і віленскія сведамыя беларусы. Заснавальнікі газеты Людвіка Кардзіс і Павел Жук. Выдавец Павел Жук. Газета набіраецца ў Вільні, а друкуецца ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні. У першым нумары змешчаны творы Ларысы Геніюш, Антона Луцкевіча, Аляксандра Уласава, Уладзіміра Арлова, Сяргея Астраўцова, Генадзя Сагановіча, Ігара Бабкова, Сяргея Паўлоўскага, Алеся Чобата, Алега Мінкіна, В. Акудовіча, А. Ч., Т. С., Дж. Д. Сэлінджэра, Эдгара По ды іншыя. Змяшчаецца цікавая інфармацыя. Набыць «Нашу Ніву» можна ў кіёску ТБМ імя Францішка Скарыны. Каб падпісацца, трэба пераслаць адвольную суму грошай на адрас: 220131, Мінск, а/с 229, Чубрык К. М. Як гаворыцца ў газеце, калі чытач атрымае нумары на гэтую суму, яму будзе паведамлена, што прыспеў час працягнуць падпіску. Калі чытач выпіша два асобнікі «Нашай Нівы», агульны кошт падпіскі будзе зменшаны на 10 %, калі тры — на 25 %, калі ж больш за тры — на 50 %. Кошт першага нумара «Нашай Нівы» — адзін рубель.

# Пісьмо ў рэдакцыю

Шчыра паважаная рэдакцыя «Нашага слова»! Бязмежна рады і ўдзячны Вам за цудоўную публікацыю майго верша «Благанне» ў № 12 ад 8—14 мая гэтага года. Прашу ганарар (калі такі ёсць) пералічыць на рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Буду рады, калі хоць мізэрны мой грош паслужыць святой справе адраджэння беларускага слова.

Цешыць, што тыднёвік «Наша слова» нарэшце стаў на свае ногі і захапляе зместам і шчырасцю.

Дзякуй Вам за змястоўнасць і актуальнасць выдання.

З павагай<br>
Васіль СУПРУН.<br>
г. Слонім.

Л. СЯМЕШКА.

# У 1933-м І ПАЗНЕЙ

На старонках нашай газеты пад рубрыкай «Тарашкевіца»? «Наркомаўка»? «Скарыніца»?.. ідзе дыскусія па праблемах сучаснага беларускага правапісу. Спрэчкі, па сутнасці, зводзяцца да рэформы 1933 года, якая была праведзена ў адпаведнасці з Пастановай СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». У дыскусійных матэрыялах выразна акрэсліліся дзве пазіцыі: адзін бок патрабуе пераходу на дарэформенны правапіс, другі мяркуе, што трэба прытрымлівацца сучасных арфаграфічных норм. Лічым неабходным пазнаёміць нашых чытачоў з аглядам раздзелаў урадавай пастановы 1933 года. Яго падрыхтавала дацэнт кафедры беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта Л. І. Сямешка.

### 1. РЭФОРМА

Задачы пісьма кожнага народа — перадаваць максімальна дакладна і па магчымасці простымі і эканомнымі спосабамі думку чалавека. Якраз гэтым задачам падпарадкаваны звычайна тыя змены, удасканаленні і рэформы пісьма, вядомыя ў гісторыі кожнай мовы. Беларуская літаратурная мова не складае выключэнне. Гісторыя яе развіцця — гэта разам з тым і гісторыя ўсталявання і развіцця яе арфаграфічных норм, гісторыя вострых дыскусій па пытаннях арфаграфіі. Адна з важных, вызначальных старонак гэтай гісторыі — рэформа беларускага правапісу 1933 года.

Чым яна выклікана? Хто яе рыхтаваў і праводзіў? Што папярэднічала ёй? Каб адказаць на гэтыя пытанні, заглянем у гісторыю беларускага правапісу.

### 2. ВЫТОКІ

Беларуская нацыянальная арфаграфія бярэ свой пачатак у сярэдзіне XIX ст. калі пачала складвацца новая беларуская літаратурная мова. Здабыткаў старога беларускага пісьменства новая літаратурная мова зусім не пераняла, таму адзінай яе апорай сталі жывыя беларускія гаворкі, на якія і арыентаваліся ў сваёй пісьмовай практыцы тагачасныя пісьменнікі. Ніякіх граматык ці нарматыўных беларускіх слоўнікаў у XIX ст. не існавала. Можна ўявіць сабе, які арфаграфічны і граматычны разнабой панаваў.

За дзесяцігоддзе (1906—1915) легальнага функцыянiравання беларускай мовы, калі ў літаратуру прыйшоў вялікі атрад таленавітых паэтаў і пісьменнікаў з розных куткоў Беларусі, калі з'явіўся перыядычны орган на беларускай мове, пачалі паступова складвацца пэўныя правілы правапісу. Аднак паколькі арфаграфічны рэжым не быў яшчэ ўзаконены, гэтыя правілы выкарыстоўваліся вельмі непаслядоўна. Зразумела, ва ўмовах, калі беларуская мова не прызнавалася самастойнай, не допускалася ў школьнае навучанне, афіцыйны ўжытак, нормы яе не маглі быць канчаткова выпрацаваны і кадыфікаваны.

### 3. ДЗЯРЖАЎНЫ СТАТУС

Свядомая, мэтанакіраваная рэгламентацыя беларускага правапісу пачалася толькі ў паслякастрычніцкі час, калі беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Пашырэнне літаратурнай мовы ў розныя сферы грамадскіх зносін патрабавала неадкладнай ліквідацыі правапісна-граматычнага разнабою. Гэтая задача ў значнай ступені была вырашана выдадзенай у 1918 г. «Беларускай граматыкай для школ» Б. Тарашкевіча. Граматыка ўпершыню рэгулявала пісьмо. З яе выхадам, па сутнасці, закончыўся перыяд панавання ў беларускай мове індывідуальных арфаграфій. Аднак хоць падручнік Б. Тарашкевіча і заснаваў, паводле слоў С. Некрашэвіча, «цэлую эру ў гісторыі нашай граматыкі і правапісу», многія арфаграфічныя пытанні былі ў ім недастаткова апрацаваны, асобныя правілы былі занадта складанымі. Ды гэта і зразумела: перад Б. Тарашкевічам не стаяла задача спрашчэння правапісу. Актуальным для таго часу было адабраць найбольш тыповае ў беларускіх гаворках і, спалучыўшы яго з пісьмовай традыцыяй, прывесці арфаграфію да максімальна магчымай аднастайнасці. Разам з тым некаторыя граматычныя нормы, прапанаваныя аўтарам, мелі вузкадыялектную аснову. Усё гэта пачало выяўляцца, калі патрэбы беларусізацыі (асабліва пасля ўключэння ў склад Беларусі ў 1924 годзе Віцебскай, часткі Смаленскай і Гомельскай губерняў) выклікалі масавае азнаямленне з правапісам, калі беларускае пісьмо пачало ўваходзіць у штодзённую практыку шырокіх колаў народа. Асобныя кадыфікаваныя Б. Тарашкевічам граматычныя формы заходнебеларускага паходжання (напрыклад, канчаткі назоўнікаў ***-ом/-ём/***, ***-ох/-ёх/*** у ***Д.*** і ***М.*** склонах множнага ліку: ***братом, палём, братох, палёх***) успрымаліся насельніцтвам усходняй часткі Беларусі як чужыя.

### 4. КРЫЗІС

Незадаволенасць правапісам адлюстравалася ў арфаграфічнай дыскусіі, узнятай на старонках беларускага друку ў 1925—1926 гг. Яна і падрыхтавала глебу для пастаноўкі пытання аб рэформе беларускага правапісу. «Беларускае грамадства,— пісаў у той час Я. Лёсік,— апынулася перад правапісным крызісам».

Пытанне аб рэформе беларускага правапісу і графікі было вынесена на Акадэмічную канферэнцыю 1926 года. Для далейшай апрацоўкі правапісу пры Інбелкульце ў кастрычніку 1927 года ствараецца спецыяльная правапісная камісія, у склад якой увайшлі такія вядомыя вучоныя і дзеячы культуры, як С. Некрашэвіч (старшыня), Я. Лёсік, В. Ластоўкі, П. Бузук, Я. Бялькевіч, Я. Купала, У. Чаржынскі, А. Багдановіч (сакратар). Камісія працавала па красавік 1929 года, мела за гэты час 33 пасяджэнні. Вынікам яе працы стаў праект правапісу, які быў выдадзены ў пачатку 1930 года. Поўная назва яго «Беларускі правапіс (праект). Апрацаваны Правапіснай Камісіяй БАН». Праект уключаў 77 арфаграфічных правілаў. Праца камісіі — як адзначалі самі вучоныя — была вельмі напружанай і цяжкай. Па сутнасці, не было ніводнага пытання, па якім усе члены камісіі мелі б адзіную думку. Некаторыя пытанні разглядаліся па некалькі разоў. Але абмеркаванне праходзіла дэмакратычна, правілы прымаліся большасцю галасоў (часам з перавагай у адзін голас) адкрытым галасаваннем. Хто не згодны быў з тым ці іншым правілам, мог змясціць свае заўвагі асобна ў канцы праекта. На падрыхтаваны праект аўтары глядзелі як на працу, «якая будзе ўдасканальвацца, змяняцца пасля шырокага яе абмеркавання». У далейшым вучоныя збіраліся прыступіць да стварэння арфаграфічнага слоўніка беларускай мовы.

### 5. КАТАСТРОФА

Але планы вучоных не здзейсніліся. Менавіта ў гэты час у Беларусі пачынаецца кампанія па выкрыццю так званых «нацыянал-дэмакратаў», да якіх былі аднесены і большасць членаў камісіі. Толькі што выдадзены праект правапісу аб'яўляецца «нацдэмаўскім» і, не дайшоўшы да шырокай грамадскасці, трапляе на доўгі час у «спецхраны». Яго аўтары звольнены з Акадэміі навук і высланы за межы рэспублікі.

Аднак неабходнасць упарадкавання, спрашчэння правапісу настойліва дыктавалася патрэбамі практыкі, таму ўжо ў сакавіку 1930 года Інстытут мовазнаўства прыступае да падрыхтоўкі новага праекта правапісу. З членаў былой правапіснай камісіі засталіся толькі А. Багдановіч і П. Бузук, якія некаторы час яшчэ працавалі ў інстытуце. Бралі ўдзел у падрыхтоўцы новага праекта Я. Купала і Я. Колас. К пачатку 1933 года новы праект, які ўключаў 84 правілы, быў закончаны і надрукаваны. Пасля абмеркавання яго на пасяджэннях калегіі Наркамасветы, на сходах навукова-педагагічнай грамадскасці, пісьменнікаў.

(Працяг будзе).

